Збе-рагчы і Павя-лічыць
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Дзедзіч
№5 (74) • ТРАВЕНЬ 2012

**Увага!**

***"Дзедзіч" зычыць усім студэнтам поспехаў на сесіі і запамінальнага адпачынку летам! Сустрэнемся ў верасні!***

# ТОП БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ



**Раман Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" названы лепшым беларускім празаічным творам у выніку апытання "Топ-100 беларускай прозы", якое праводзіла АРР "Дзедзіч". Прапаноўваем вынікі галасавання, а таксама каментары літаратуразнаўцаў і аднаго з пісьменнікаў-"лаўрэтатаў" .**

Вызначэнне самых папулярных беларускіх твораў пачалося з таго, што Дзедзіч прапанаваў у суполцы «Укантакце» выкладваць назвы твораў для ўключэння ў спіс галасавання. Усяго карыстальнікамі сацыяльнай сеткі было прапанавана 140 празаічных твораў. У пачатку красавіка адбывалася галасаванне на сайце Dzedzich.org, у якім прынялі удзел амаль 1.400 чалавек.

**У першую дзясятку трапілі:**

1. **Караткевіч Уладзімір "Каласы пад сярпом тваім" (543 галасы)**
2. **Караткевіч Уладзімір "Дзікае паляванне караля Стаха" (481 голас)**
3. **Мележ Іван "Людзі на балоце" (342 галасы)**
4. **Купала Янка "Тутэйшыя" (337 галасоў)**
5. **Баршчэўскі Ян "Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" (299 галасоў)**
6. **Караткевіч Уладзімір "Чорны замак Альшанскі" (292 галасы)**
7. **Колас Якуб "На ростанях" (287 галасоў)**
8. **Быкаў Васіль "Знак бяды" (281 голас)**
9. **Караткевіч Уладзімір "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (231 голас)**
10. **Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт "Пінская шляхта" (219 галасоў)**

Вынікі апытання прааналізавалі вядомыя берасцейскія філолагі-літаратуразнаўцы, дацэнты ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна **Генадзь Праневіч** і **Галіна Ішчанка**.

**Генадзь Мікалаевіч:** «На першых месцах у спісе – класічныя творы, якія складаюць аснову ўяўленняў людзей пра беларускую літаратуру. Яны хрэстаматыйныя і ўключаныя ў школьную праграму. Безумоўна, яны з'яўляюцца знакавымі для нашай культуры, у гэтых творах адлюстраваная ідэя беларускасці і панацці пра нацыянальны характар. Таму іх лідэрства падаецца лагічным і апраўданным.

Сучасная літаратура прадстаўлена нешырока і не займае першых месцаў ў спісе. Відаць, гэтыя творы прапанавала і галасавала за іх тая частка моладзі, якая арыентуецца ў сучаснай культуры. Гэта, як вы любіце казаць, "прасунутая" моладзь, эліта.Творы такіх пісьменнікаў, як Сяргей Егарэйчанка, Альгерд Бахарэвіч, Францішак Аляхновіч і іншыя, не атрымалі афіцыйнай падтрымкі ў сродках масавай інфармацыі, выдавецтвах, школе і г.д. Таму для тых, хто ведае іх творы, гэта з'яўляецца іх уласным інтэлектуальным здабыткам.

У першыя пункты не трапілі творы з складаным зместам, напрыклад, кніга "У вайны не жаночае аблічча" Святланы Алексеевіч заняла толькі 23 месца. Яе творы не з'яўляюцца забаўляльнымі, у іх паднятыя, так бы мовіць, непрыемныя тэмы - смерці, хваробы. З другога боку, зразумела, што моладзь абірае больш аптымістычныя і жыццесцвярджальныя творы».

**Галіна Мікалаеўна**: «Некаторыя вынікі мяне здзівілі. Тое, што моладзь галасавала за такія творы, як "Раскіданае гняздо", "Хто смяецца апошнім", тым больш "Шляхціч Завальня", які ўвайшоў у першую пяцёрку, мне падалося нечаканым. Здавалася б, гэта не тая проза, якая магла б выклікаць зацікаўленасць шырокай публікі.

**Працяг чытайце на стар. 4**

## У НУМАРЫ:

3 **ПЕРШЫЯ БАІ** на педагагічным фронце

7 **БЕРАСЦЕЙСКІЯ ПАДЗЯМЕЛЛІ** ці яны існуюць?

8 **У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ** вачыма берасцейца

9 **МОВЫ, ЯКІЯ ВЫЖЫЛІ** частка 2

# БЕЛОРУСЫ VS РУССКИЕ

## КТО ПРОТЕСТУЕТ ЛУЧШЕ?

**Поп-дива Ксюша Собчак, задержанная на одном из стихийных митингов по случаю инаугурации Владимира Путина, написала из автозака в «Твиттер»: «Раз уж они «пакуют» в автозаки не преступников, а обычных граждан, пусть обеспечивают вай-фай!» Слова «автозак», «зачистка», «дубинки», «задержание» на прошлой неделе плотно вошли в речевой обиход москвичей, а ведь до этого считались чуть ли не белорусским новоязом русского!**




«БелГазета» решила вычленить сходства и различия белорусских и русских «массовых беспорядков».

### СХОДСТВА

1. В обоих случаях к массовому выходу людей на улицы привела электоральная кампания. И в Москве, и в Минске людей вывели на улицу не экономические сложности, не отсутствие денег или еды - это классический либеральный протест, попытка отстоять свои права.

2. И там, и там численность протестующих была непривычно большой. До зимних протестов 2011г. в Москве была уверенность, что протестные акции - удел небольшой группки маргиналов. Зимой 2011г. протесты вдруг начали шириться. 100 тыс. (50 тыс., по другим данным) для Москвы - это даже меньше, чем 40 тыс. для Минска, т.к. Москва в 5 раз больше белорусской столицы. Однако нельзя отрицать тот факт, что в обоих случаях численность протестов была вдохновляюще большой.

3. Жесткие действия силовых структур. В кризисной ситуации, несмотря на отношенія с Западом, правоохранительные органы двух стран ведут себя одинаково.

4. Задержания, имеющие массовый характер. В Москве в районе Болотной площади задержано 400 человек, в Минске 19 декабря задержали 800. В Москве 6 мая и в последующие дни «народных гуляний» сообщалось о ситуациях, когда автозаки подъезжали к переполненным кафе, и вязали вообще всех, кого видели. Россияне столкнулись с новым лицом достаточно популярного в этой стране слова «произвол» и удивились тому, насколько всеобъемлющим и отвязным этот «произвол» бывает.

5. Возбужденное уголовное дело «О массовых беспорядках». Формулировка совпадает с белорусской дословно. Разбитых стекол в Доме правительства там не было, а вот наказывать за «беспорядки» власть вознамерилась.

6. Превентивные аресты «зачинщиков» как способ остановить массовый выход людей на улицы. Поскольку многое из происходившего после 6 мая было инициировано фактически двумя персонажами - блогером Алексеем Навальным и политиком Сергеем Удальцовым, - их в итоге и подвергли административному аресту на 15 суток - якобы за неповиновение сотрудникам правоохранительных органов. Это, правда, не помешало 9 мая многотысячной толпе собраться на Тверской.

7. И наконец, самое главное: то, как выглядела инаугурация Владимира Владимировича Путина по ТВ. Совершенно пустынные проспекты, по которым ехал кортеж. Не было радостных многотысячных толп, машущих флажками и портретиками, как это происходит обычно в США и Европе. Путин перестал быть «народным президентом»? Или его охрана тупо побоялась собирать большую толпу, поведение которой в эти горячие дни могло быть непредсказуемым?

### РАЗЛИЧИЯ

1. У российской оппозиции все-таки был план. Смысла движения белорусских колонн к Дому правительства 19 декабря 2010г. теперь не могут внятно объяснить даже члены штабов экс-кандидатов в президенты. План Навального, Удальцова и Бориса Немцова, как теперь становится понятно, в немалой степени заключался в создании «картинки» - фона, на котором происходит инаугурация Путина. И режиссура этого мероприятия оказалась куда мощней, чем в Минске 19 декабря.

2. У российских властей плана не было. Они понимали, что назревает многолюдный «Марш миллионов», но ничего умней превращения его в «фарш миллионов» - масштабную жестокую драку - не придумали. Не было провокаторов в толпе, наподобие белорусских, управляемых с помощью раций с внешней гарнитурой, не было попыток маленькими молоточками разбить стены Кремля, за которые потом можно было вытрясти душу из всех демократических партий.

3. Совершенно иная реакция рядовых участников протестов на жестокость со стороны полиции. Никто не кинулся бежать. Когда полицейские принимались избивать кого-то из участников «беспорядков», остальные не отступали в ужасе, а бросались отстаивать единомышленников. Как нам кажется, не в последнюю очередь это обусловлено слабой подготовкой московской полиции к разгону массовых беспорядков. В Беларуси милиция никогда не разрывает ряды, не позволяет окружать маленькие группы бойцов спецназа, идет сплошным фронтом. Пытаться сражаться с этим укрепленным щитами строем - то же самое, что прыгать с голыми руками на танк.

4. Совершенно иная роль проправительственных организаций. В Минске во время зимних протестов 2010г. на Октябрьской площади громко включили российскую попсу, которая заглушала попытки организаторов митинга докричаться до собравшихся. В Москве параллельно с митингом на Болотной был запущен массовый митинг пропутинской организации. Кроме того, в ряды протестующих были заброшены активисты официального молодежного союза, облаченные в клоунские наряды. Они скандировали странную речовку: «Путин любит всех!»

5. Либерализм российских властей. Дело о массовых беспорядках возбуждено, а уголовные сроки никому не грозят. Навальный и Удальцов скоро выйдут на свободу.

6. Долгосрочный характер протестов. Несмотря на жестокий разгон 6 мая, уже 7 мая люди вышли на новые массовые акции.

7. И наконец, главное различие: в России протесты пробудили новый социальный слой. Многие назвали Болотную «бунтом хипстеров». Классическим участником антипутинских протестов стал «повязанный» в кафе «Жан-Жак», одетый в очки «Рэй Бэн» молодой человек, с недоумением пытающийся найти «вай-фай» в автозаке.

**Виктор Мартинович, БелГазета**

# ПЕРШЫЯ БАІ
## НА ПЕДАГАГІЧНЫМ ФРОНЦЕ

**Журналіст “Дзедзіча” паразмаўляла з выпускнікамі берасцейскага “педуніверсітэта”, якія пачалі працаваць настаўнікамі ў школе. Такім чынам атрымалася зрабіць выснову пра некалькі “абломаў”, якія чакаюць кожнага, хто ўпершыню ступае на хісткую сцежку настаўнічання.**

**Я – НЕ САМЫ КРУТЫ**

Першае знаёмства маладога спецыяліста з калегамі звычайна падымае самаацэнку. Табе падаецца, што усе яны старыя, непрыгожыя, закасцянелыя і кансерватыўныя. А ты такі энергічны, крэатыўны і цікавы! Ты атрымліваў дзявяткі і дзясяткі, і нават перамог у конкурсе выразнага чытання на факультэце! Ты поўны запалу і гатовы паказаць усім, на што здольны.

І вось, першае выпрабаванне: ты склаў гадавы план у тэрмін і, горды сабой, нясеш яго ў канцылярыю, а там адказваюць “Угу, добра” і абыякава кладуць яго ў стос такіх жа тэчак. Ніхто пляскаць у далоні табе не збіраецца. Аказваецца, усе гэтыя змучаныя і пазбаўленыя энергіі жанчыны таксама здалі план у тэрмін і, не чакаючы падзякі, садзяцца за наступны.

Праз пэўны ж час ты разумееш, што тваёй энергіі ледзь хапіла на напісанне справаздачы аб правядзенні інфармацыйнай гадзіны і плана-канспекта мерапрыемства “Сустрэча з ветэранам”. А ў цябе яшчэ грошы на харчаванне не сабраныя, не вызначаны дзяжурны на званках і конкурс “Малады настаўнік года” праз тыдзень. І тут ты азіраешся на калегаў, якія ўсё гэта ўжо зрабілі, і пачынаеш падазраваць, што яны – пераапранутыя агенты спецыяльнага падраздзялення.



**НІЯКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ**

Ты абаяльны і лёгка разумеешся з людзьмі, двое малалетніх пляменнікаў ад цябе ў захапленні. Таму ты ўпэўнены, што з класам лёгка наладзіш кантакт. Галоўнае, адстаньце са сваімі парадамі і дайце мне весці ўрокі па-свойму. Фігушкі! Ніхто па-свойму рабіць табе нічога не дазволіць, пакуль ты не заробіш пачэснае званне ветэрана педагагічнай працы.

Рыхтуйся, што да цябе раз на тыдзень альбо раз на дзень (залежыць ад школы і энтузіязму дырэкцыі) будуць завітваць дырэктарка, завуч па вучэбнай працы, адказны педагог, дасведчаныя калегі, санстанцыя і г.д. Кожны будзе даваць табе парады, і, калі ты не будзеш прытрымлівацца іх у наступны раз, яны моцна пакрыўдзяцца. А ў адносінах да маладога спецыяліста стрымліваць і ўтойваць свае крыўды не вельмі прынята. Так што табе прыйдзецца засвоіць асновы дыпламатыі, каб кожны раз утаймоўваць чарговы канфлікт, і асновы дзэн-будызма, каб правільна на яго рэагаваць.

**БАЦЬКОЎСКАЯ АПЕКА**

Ты думаеш, што самае страшнае у прафесіі настаўніка – гэта забыць нешта на ўроку і даць дзецям няправільную інфармацыю? Памыляешся, самае страшнае ў прафесіі настаўніка – гэта бацькоўскія сходы. Пад пытальным позіркам бацькоў тваіх выдатнікаў, здзеклівым – бацькоў двоечнікаў і падазроным – бацькоў актывістаў БРПА забыць усё, што ведаў і падрыхтаваў, вельмі проста.

А падрыхтаваў ты ім інфармацыю пра тое, што яны мусяць здаць колькі грошай у фонд школы і яшчэ некалькі – на наведванне канцэрту народнага ансамбля. Што Вася Іваноў памаляваў парту ў кабінеце матэматыкі, а Клава Дудкіна не прайшла агляд на часотку. А Вова Сідараў ня робіць хатніх заданняў, бо, па яго словах, яму няма дзе. Таму ты заўтра завітаеш у госці да Сідаравых, каб праверыць умовы жыцця дзіцяці (свае спадзяванні, што дарослы Сідараў будзе па такой нагодзе цвярозым, ты ў слых не выказваеш).

**ЗОРНЫ ШЛЯХ МОЖА ПРЫВЕСЦІ Ў БАЛОТА**

Звычайна ад універскай практыкі і першых дзён працы ў школе ў маладых людзей застаюцца добрыя ўражанні. Новая атмасфера, нязвыклая сацыяльная роля, новыя дасягненні і поспехі. Але з цягам часу, калі да ўсяго прызвычаішся, эйфарыя затухае. Штодзённая мітусня, якая не прыносіць выніку, пачынае дакучаць. Ты заўважаеш, што з кавалераў застаўся толькі лашара-інфарматык ў акулярах і з засаленымі валасыма, а свой гардэроб ты абмяркоўваеш толькі з гардэробніцай, якая ужо цэлы месяц цікавіцца, калі ты нашыеш вешалку сабе на паліто. Ад няма чаго рабіць ты нават пачынаеш браць удзел у інтрыгах Мадрыдскага двара, якія разварочваюцца ў настаўніцкай.



І апраўданне ўсяму гэтаму можа быць толькі тады, калі ты сапраўды нешта лепіш з гліны пад назвай “вучні”. Як толькі ты адмаўляешся ад гэтай “наіўнай” і “рамантычнай” мэты, ты становішся яшчэ адной дэкарацыяй цырка, які пануе навокал.

**Альбіна ТРУС**

## АДНЫМ РАДКОМ

### ВЕРНЕМ КРАІНЕ ГОНАР

**Музей гісторыі Магілёва абвясціў дабрачынную акцыю па зборы сродкаў для выкупу Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Статут знаходзіцца на аукцыёне ў Маскве.**



Статут быў выстаўлены на продаж на электронным аўкцыёне ўладальнікам антыкварнай крамы ў Маскве. Дадзены асобнік ацэнены на $45 тыс. (каля Br360 млн).

Пры гэтым частку грошай (10%), паводле папярэдняй дамоўленасці з прадаўцом, неабходна сабраць цягам двух тыдняў у якасці закладу. Рэшту сумы трэба будзе пералічыць цягам трох месяцаў.

Беларусы на сённяшні дзень назбіралі 1000 даляраў. Нават Нацбанк прапанаваў сваю дапамогу.

Ва ўсім свеце налічваецца каля 60 асобнікаў усіх трох выданняў Статута. У Беларусі няма ніводнага. Як прыватнымі асобамі, так і дзяржаўнымі інстытутамі краіны ўжо рабіліся спробы выкупіць асобнікі Статута, аднак беспаспяхова.

Пералічыць грошы на гэтую добрую справу можна на **рахунак музея**:

УК «Музей гісторыі Магілёва» 212030 Магілёў, вул. Ленінская, 1А

рахунак: УНП 790203960

Філія 700 МАУ ААТ «АСБ Беларусбанк» МФО 153801536

р/р 3642014673147

Магілёў, вул. Першамайская, 71

Мэта плацяжа: На развіццё музейнай справы і ахову гісторыка-культурнай спадчыны (для куплі Статута ВКЛ)

**dzedzich.org**

### ЗВЯЖЫ СТАТУІ ПАНЧОХІ



**Упрыгожванне вуліц - модны кірунак, які набірае папулярнасць ва ўсім свеце, зараз дапоўніўся яшчэ і вулічным вязаннем.**

Гэта павінна быць сапраўдным захапленнем - стаяць гадзінамі ў ліхтарнага слупа і вязаць. Такіх самаадданых вязальшчыц становіцца ўсё больш.

Аб'ектамі могуць стаць любыя статычныя элементы вуліцы, такія як слупы, дрэвы, поручні, крамкі, а часам і закінутыя машыны і ровары. Дэвіз вязальшчыкаў - чым ярчэй, тым лепш. .

Нарадзіўся гэты накірунак дызайну ў ЗША ў Х'юстане, дзе была створана група Knitta. . Захапленне Urban Knitting стала хутка распаўсюджвацца па свеце, і цяпер шэдэўры паслядоўнікаў групы Knitta можна сустрэць у Лондане, Рыме, Мілане, Празе, Стакгольме і іншых буйных гарадах свету. Аднак у большасці краінаў абвязванне гістарычных помнікаў лічацца вандалізмам.

**europuzzle.ru**

# ТОП-100 БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

**Працяг. Пачатак на стар.1**

У спіс увайшлі большасць твораў школьнай праграмы. Гэта сведчыць пра тое, што школа выконвае сваю функцыю і закладае асновы культуры.

Першынство пазіцыі Караткевіча ў беларускай літаратуры для мяне выглядае відавочнымі. У кантэксце савецкай культуры творчасць Уладзіміра Сямёнавіча была нефарматнай. З агульнай плыні сялянскай тэматыкі ён выбіваўся. Яго героямі станавіліся шляхцічы, выбітныя персоны, гістарычныя асобы. Ягоная творчасць адлюстроўвала іншую нацыянальную ідэалогію.

Разам з гэтым творы Караткевіча маюць белетрыстычны накірунак, цікавы, захапляльны сюжэт. Тым не менш, з маёй працы са студэнтамі, напрыклад, факультэта дашкольнай адукацыі, вынікае, што для сучаснага пакалення нават Караткевіч з'яўляецца складаным для ўспрымання. Часта мне прыходзіцца проста тлумачыць ім сюжэт.

У школах з літаратурай сябруюць яшчэ менш. Распаўсюджанай з'явай становіцца нечытанне вучнямі твораў школьнай праграмы, якімі б цікавымі яны не былі. Часта такое адбываецца са згоды настаўніка, які спрабуе кампенсаваць гэта «калектыўным абмеркаваннем» ці нейкімі новымі тэхналогіямі.

На гэтым фоне апытанне "Дзедзіча" і ўдзел у ім вялікай колькасці моладзі з'яўляецца вельмі прыемнай падзеяй. Людзі, галасуючы за беларускія творы, разам з тым выказваюць сваю грамадзянскую пазіцыю і зацікаўленасць нацыянальнай культурай».

***

Свае меркаванні наконт апытання "Топ-100 беларускай прозы" выказаў вядомы беларускі пісьменнік і наш зямляк (нарадзіўся на Століншчыне), **Алесь Наварыч**. Яго раман "Літоўскі воўк", які прысвечаны падзеям паўстання 1863 года і шмат у чым з'яўляецца працягам традыцый Караткевіча, увайшоў у сотню лепшых беларускамоўных твораў.



Мікалай Крыштаф Радзівіл

**Алесь Іванавіч**: "Вынікі апытання адлюстроўваюць пэўнае светаўспрыманне, уласцівае нацыянальна-арэрыентаванай моладзі. Гэта рамантызм і ідэалізм, увасабленнем якога сталі раманы Караткевіча.

Я сам у пэўны перыяд сваёй творчасці знаходзіўся пад уплывам гэтага светаўспрымання. У дзяцінстве Караткевіч быў маім любімым пісьменнікам".

Літаратар упэўнены, што тыя беларускія творы, якія мы любім і чытаем, якія вывучаем у школе – гэта так ці інакш вынік савецкай ідэалогіі. "Наш густ сфарміравала імперыя. Да нас на паліцы траплялі тыя творы, якія дазваляла друкаваць Масква. А на якой паперы яны друкаваліся? Сыравіна пастаўлялася з Сібіры. На такой паперы не магло з'явіцца нічога, што б супярэчыла афіцыйнай ідэалогіі".

Вялікі пласт беларускай літаратуры ў друк так і не трапіў. "Кніга, якую я лічу адной з лепшых, – "Паломніцтва ў Іерусалім" Мікалая Крыштофа Радзівіла ("Сіроткі") . Напісаная яна была на лацінцы, потым перакладалася на польскую. Але аўтар перадаў ёй ліцвінскі дух, ліцвінскае светаўспрыманне.

Мне падаецца неапраўданым мовацэнтрызм, ідэю якога заклаў "Дзедзіч" у сваё апытанне. Беларускамоўная літаратура – гэта ў асноўным тая, што з'ўлялася ў часы Савецкага Саюза. Але нашая нацыя склалася не ў 1882 годзе, калі нарадзіліся Янка Купала і Якуб Колас.

З-за такога завужанага погляду ў спіс не трапілі, напрыклад, Адам Міцкевіч з ягоным "Панам Тадэвушам" і "Песня пра зубра"Міколы Гусоўскага".

**Падрыхтавала Альбіна ТРУС**

# НЕ ВЕДАЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ – НАША КАНСТЫТУЦЫЙНАЕ ПРАВА

**Міністар адукацыі Сяргей Маскевіч не здолеў рэалізаваць чарговую ініцыятыву: пераход выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі ў школах на беларускую мову. Яго намеснік заявіў, што гэтыя прадметы і надалей будуць выкладацца на расейскай, бо на друк беларускамоўных падручнікаў няма грошай, і ўвогуле права выбару мовы навучання застаецца «за бацькамі».**

Напрыканцы сакавіка гэтага году міністар адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў пра жаданне перавесці выкладанне двух школьных прадметаў — Гісторыі Беларусі і геаграфіі Беларусі — выключна на беларускую мову. Цяпер гэтыя прадметы вывучаюцца пераважна па-расейску.

«*Такая задача ўжо пастаўленая, і мы будзем імкнуцца да таго, каб ужо з новага навучальнага году беларуская мова вярнулася на ўрокі па гісторыі і геаграфіі роднага краю*», — казаў тады Маскевіч.

Аднак учора яго намеснік Казімір Фарыно заявіў аб адмове міністэрства ў пераходзе на мову тытульнай нацыі:

«*На дадзены момант гісторыю Беларусі на беларускай мове ў нашай краіне вывучае каля 18% дзяцей, з якіх толькі 5% пражывае ў гарадах*», — сказаў Фарыно.

«*Для таго каб гэта зрабіць* [перавесці выкладанне на беларускую мову], *неабходныя дадатковыя сродкі на выданне ўсіх падручнікаў. Падручнікі выдаюцца пад замову. Да прыкладу, для таго каб выдаць падручнікі для усіх вучняў 5-х класаў, трэба 1.3 млрд. рублёў*», — цытуе яго словы interfax.by.

Агулам, па словах намесніка міністра, на перавод усіх школ на беларускамоўную гісторыю і геаграфію патрэбныя $1.224 млн.

Акрамя грошай, перайсці на нацыянальную мову ў выкладанні двух школьных прадметаў міністэрству перашкаджае закон аб мовах і кодэкс аб адукацыі. Характэрна, што калі першы з'явіўся толькі ў мінулым годзе, то закон аб мовах функцыянуе ўжо больш за 20 гадоў, і раней ён не перашкаджаў выкладаць гісторыю і геаграфію Беларусі па-беларуску ва ўсіх школах.

«*А наогул у канстытуцыі ў нас дзве дзяржаўныя мовы, і права выбару мовы навучання, у тым ліку Гісторыі Беларусі і Геаграфіі Беларусі*, — за бацькамі, — заявіў намеснік міністра дадаўшы, што вельмі турбуецца аб тым, як такі пераход «будзе ўспрыняты ўсімі».

Фарыно не выключыў пераходу на беларускую ў дзвюх названых дысцыплінах у будучыні.

Тым часам з кожным годам працягвае скарачацца і колькасць абітурыентаў, якія на абавязковым іспыце па дзяржаўнай мове з дзвюх моваў выбіралі беларускую. У 2011 годзе расейскую мову пажадалі здаваць больш як 96 тысяч чалавек, а беларускую - крыху больш, як 53 тысячы абітурыентаў.




На іншых дысцыплінах цэнтралізаванага тэставання колькасць тых, хто пажадаў здаваць іспыт на беларускай мове, увогуле выглядала катастрафічна малой: па геаграфіі — 5.2%, матэматыцы — 6.2%, фізіцы — 5.6%, хіміі — 5.5%, біялогіі — 7.2%, сусветнай гісторыі — каля 8.7%, грамадазнаўстве — 2.5%.

Можна меркаваць, што гэта статыстыка адлюстроўвае рэальную сітуацыю з колькасцю вучняў, якія навучаюцца сёння ў беларускамоўных школах.

**generation.by**

# ДЗЕ ВУЧАЦЬ
## НА МІЛІЯНЕРАЎ

**Для таго, каб стаць багатым чалавекам у цяперашняй Беларусі, эканамічная адукацыя зусім не патрэбная. Да такіх высноваў прыйшлі журналісты пасля аналізу дыпломаў найбольш паспяховых бізнэсмэнаў Беларусі.**



Аснова сённяшняга беларускага бізнэс-істэблішмэнта — былыя студэнты матэматыкі, кампутарнікі і радыёфізікі, авіяцыйныя інжынеры.

Да прыкладу, механіка-матэматычны факультэт БДУ скончылі мільянеры Аляксандр Машэнскі («Санта Імпэкс Брэст») і Ўладзімір Сіротка з «СОФТ-КЛУБ». Факультэт прыкладной матэматыкі гэтай самай ВНУ за спіной у заснавальніка IT-кампаніі ITransition Сяргея Гвардзейцава і ўладальніка кампаніі «Сквірел» Дзьмітрыя Лазара. Сяргей Левін («Сябар Кэпітал») скончыў Ленінградскае вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча па спецыяльнасці «інжынер-матэматык».

Акрамя гэтага, IT і радыёфізічную адукацыю атрымлівалі ў БДУ такія вядомыя беларускія бізнэсмэны, як Аркадзь Добкін (EPAM Systems), Сяргей Касьцючэнка («Прыорбанк»), Віктар Шаўцоў («Трастбанк»). З Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі выйшлі Сяргей Касцевіч (ASBISC Enterprises), Сяргей Ляўцееў (IBA Group), Андрэй Бахіраў (Sam Solutions), Віктар Лаўрусенка («Белросстарх»).

А вось заснавальнік самага папулярнага беларускага парталу TUT.BY Юры Зісэр на праграміста вучыўся не ў Менску, а ў Санкт-Пецярбургу.

### БНТУ АБГАНЯЕ БДУ

Але рэкардсменам па колькасці тых выпускнікоў, што сталі паспяховымі бізнэсмэнамі, безумоўна з'яўляецца Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт. Па дадзеных «Ежедневника», адукацыю інжынера там атрымаў другі самы багаты чалавек Беларусі Юры Чыж («Трайпл»), чацверты ў спісе па багаццю Віталь Арбузаў (Fenox Global Group), Сяргей Савіцкі («Атлант-М»), Упэндра Махата («Амкадор»), Аляксандр Цэнцер («А-100»).

Як высветліў Generation.bY, у першай 30-цы самых багатых беларускіх бізнэсоўцаў толькі тры выпускнікі БНТУ. Столькі ж бізнэсоўцаў скончылі БДУ. Два чалавекі вышлі з БДУІР, столькі ж з расейскіх і ўкраінскіх ВНУ.

Цікава, што два бізнэсоўцы з гэтай жа трыццатцы вучыліся на авіятараў у Рызе. Адтуль агулам чатыры значныя беларускія бізнэсоўцы.

А вось з дыпломамі фізікаў ды медыкаў мільённыя рахункі праз бізнэс займець у Беларусі наўрад ці атрымаецца. Хаця выключэннем з гэтага правіла ёсць вядомы акцыянэр «Амкадору» Аляксандр Шакуцін (хірург, Беларускі дзяржаўны медыцынскі універсітэт) і былыя студэнты-фізікі БДУ Віктар Кіслы з Wargaming.net і Аляксей Ваганаў з групы «Лада ОМС».

Акрамя гэтага заўважную групу сярод беларускіх бізнэсоўцаў уяўляюць тыя, хто скончаў навучальныя ўстановы КДБ і камуністычнай партыі. Верагодна, сувязі і здольнасці, атрыманыя ў час навучаньня ў гэтых месцах, ня раз дапамагалі бізнэсоўцам у беларускіх умовах.

Як выглядае, каб стаць паспяховым у беларускім бізнэсе на цяперашнім этапе, вышэйшую адукацыю ўсё ж лепей атрымаць. Адзіны з першай дзясяткі самых багатых бізнэсоўцаў Беларусі, пра каго дакладна зразумела, што ён ня мае дыплома ВНУ, — гэта ўладальнік «Ждановічаў» Яўген Шыгалаў.

Але агулам беларускі бізнэс застаецца зачыненым для непажаданых вачэй: характэрна, што месца, дзе атрымліваў адукацыю самы багаты беларускі бізнэсовец Уладзімір Пефціеў, дагэтуль невядомае.

**Паводле: «Ежедневник», Generation.by**

# ДЗЯЎЧЫНАМІ З ЛЮБАНШЧЫНЫ
## ЛЮБУЕЦЦА ЎВЕСЬ СВЕТ

**Фота забароненага некалі беларускага абраду прызнанае адным з лепшых на вядомым конкурсе Sony.**

Беларусы працягваюць заяўляць пра сябе на міжнародных фотаконкурсах. На адным з найбольш вядомых з іх адзначылася беларуская фотажурналістка Марына Бегункова. Яе здымак абраду з Любаншчыны ўвайшоў у дзясятак лепшых фота ў намінацыі «Мастацтва і культура».

Карэспандэнтка газеты «Звязда» Марына Бегункова ў чэрвені мінулага году рабіла рэпартаж аб абрадзе Русалле ў вёсцы Загалле Любанскага раёну. Адзін са здымкаў з Загалля журналістка даслала на буйнейшы ў свеце фотаконкурс Sony World Photography Awards (SWPA).

Здымак быў заўважаны з больш чым 52 тысячаў іншых працаў і трапіў у ТОП-10 лепшых у катэгорыі «Мастацтва і культура» . Пераможцам быў абраны, на жаль, аўтар іншага здымку, але месца ў дзясятцы мацнейшых у адным з найбольш вялікіх фотаконкурсаў свету, удзел у якім бяруць прадстаўнікі 171 краіны, значыць даволі шмат.

Дзякуючы Марыне, фота беларускіх дзяўчын з Любаншчыны трапіць у выніковы альбом з лепшымі здымкамі SWPA, а з 27 красавіка па 20 траўня яно будзе выстаўленае ў Лондане.

Русалле (русала) — паганскае свята, якое адбываецца ў канцы Русальнага тыдня. Паводле легенды, водныя гаспадыні выходзілі з вады і апалвалі жыта, такім чынам дапамагаючы яму ўрадзіць. Пры гэтым яны маглі і загубіць маладых мужчын. Таму жанчыны стараліся задобрыць сваіх суперніц. Пасля абраду русалкі, звычайна, супакойваліся да наступнага году. Праводзіць Русалле доўгі час забаранялася, але зараз гэты абрад адрадзілі на Любаншчыне.



Sony World Photography Awards — найбуйнейшы ў свеце конкурс фатаграфіі. Ён прадугледжвае асобны конкурс для прафесіяналаў, у якім удзельнічаюць працы вядучых сусветных фатографаў і «сур'ёзных аматараў», а таксама адкрыты конкурс для ўсіх, хто захапляецца фатаграфіяй. Для фатографаў маладзейшых за 20 гадоў сёлета адбыўся асобны конкурс.

У Лондан збіраецца яшчэ адзін беларускі фатограф Павал Церашкавец, які трапіў у лік фіналістаў фотаконкурсу Professional Photographer of the Year (PPOTY) 2011. Яго здымак быў названы ў ліку лепшых у катэгорыі Breaking the Mould.

Аднак у сваім блогу Павал адзначае, што візавыя перашкоды могуць прымусіць яго адмовіцца ад вандроўкі ў Лондан.

**Generation.by**

# ГЛАМУР АДПАЧЫВАЕ

**Пасля маскоўскага паўфіналу «Новай хвалі» высвятлілася, што з васьмі беларускіх удзельнікаў у фінальным шоў у Юрмале выступіць Аляксандра Барташэвіч, пра якую беларускія СМІ акуратна напісалі як пра «нікому не вядомую дзяўчыну з Берасця».**



Дзяўчына яшчэ на беларускім этапе адбору зачаравала журы: выступіла з рок-рэпертуарам (Kings Of Leon і Макс Фадзееў), і ў сваіх балетках і сукенцы ў палосачку рэзка вылучалася на фоне буйна квітнеючай лютым гламурам беларускай эстрады.

Сашы 23 гады, яна вучыцца ў Маскве. «Мяне і праўда мала хто ведае, - смяецца яна. - Хіба што ў Берасці я была, можа, трохі вядомая: спявала на карпатывах, гарадскіх мерапрыемствах, мяне клікалі ўсюды. І сябры ў мяне там ёсць: гурт «Дай Дарогу!».

Высветлілася, што Саша ўдзельнічала ў паўфінале «Новай хвалі» чатыры гады назад, але не прайшла ў фінал: «Юная была, спалохалася, мала прафесіяналізму. Спела я кавалак песні, мяне спынілі і кажуць: ты спяваеш для сябе, а трэба спяваць для народа! А ў Менску да мяне Паліна Смолава падышла і кажа: дзяўчынка, табе яшчэ шмат працаваць трэба». “Другі раз мяне проста мама прымусіла ўдзельнічаць, гэта яе ініцыятыва”.

Здаецца, мама сур'ёзна ўзялася за выхаванне дачкі - у нейкім сэнсе яна выступае як прадзюсар Сашы. Але гэта толькі таму, што прадзюсара ў яе няма. «Я калі ў Менск прыехала на адборачны тур, так здзівілася: усе выступоўцы ад нейкіх прадзюсарскіх цэнтраў, усімі хтосьці займаецца, а я з мамай прыехала!».

Чаму менавіта яе абралі для выступу ў Юрмале, Саша сапраўды не ведае. Магчыма, справа і ў нестандартным рэпертуары: у Маскве яна выконвала песні Этты Джэймс, Kings of Leon («Песня ні разу не конкурсная, але мне па кайфе яе спяваць!») і Рыгора Лепса. «Вадаспад» Лепса журы пазнала не адразу.

Разам з Сашай у паўфінале ўдзельнічалі сапраўдныя зоркі беларускай эстрады: «Дразды», Вера Карэтнікава. Але прайшла ў фінал менавіта яна. Якім чынам? Саша бянтэжыцца: «Я не вельмі вось сачу за беларускай эстрадай. Але мне шматлікія выступоўцы спадабаліся – Жэню Літвінковіча, напрыклад, я лічыла сваім галоўным супернікам! Яшчэ ў Менску на адборы спявала выдатная дзяўчынка Саша Захарык, яна «Ляпісаў» спявала, але яе не абралі чамусьці. Не думаю, што з-за «Ляпісаў», яна ж спявала старую песеньку, пра «ў сукеначцы зялёнай», дарэчы, я і сама таксама думала «Ляпісаў» праспяваць!»

У гутарку ўступае мама і мэнэджар Аляксандры, Ірына. Яе бянтэжыць, што «беларусам, аказваецца, гэта ўсё не асоба цікава». Да конкурсу ўсе ўдзельнікі да этапу ў Юрмале рыхтуюцца самі, аплачваючы сабе квіткі, фанаграмы і гасцініцы. Зрэшты, магчыма, лепшая дапамога - гэта адсутнасць дапамогі. Хоць лічыцца бо, што Беларусь - адзіная краіна, якая мае свой філіял «Новай хвалі», нейкі прадзюсарскі цэнтр...».

На пытанне, ці не жадалі арганізатары падкарэктаваць «негламурны» імідж Аляксандры, спявачка пачынае распавядаць усялякія смешныя гісторыі пра тое, як ёй на конкурсе «вымаўлялі» за сукенку, балеткі і джынсы. «Намякалі, што я не выглядаю ў стылі конкурсу!».

Для яе важней усяго пачувацца камфортна пры выступе: «Таму ў Менску я і спявала ў балетках. Безумоўна, у мяне ёсць практыка хаджэння на абцасах, але я некамфортна сябе ў іх адчуваю: думаю ўвесь час, як бы мне не грукнуцца з гэтай сцэны і не ўчапіцца за провад, таму што я апоры пад нагамі не адчуваю... Ды і сукенкі, у прынцыпе, я не вельмі вось нашу..»

Для Аляксандры яе нечаканы поспех стане нагодай нарэшце заняцца музыкай сур'ёзна, ад першай асобы. Яна падумвае пра тое, каб «стварыць свой бэнд і пачаць сур'ёзна працаваць над рэпертуарам - ужо нават ёсць людзі, з якімі я жадаю працаваць».

Можа, «Новая хваля» - конкурс менавіта для такіх, малавядомых, але яркіх і харызматычных вакалістаў, якія любяць музыку і знаходзяцца ў пошуку сябе, а не для раскручаных эстрадных зорак, якія ўзмоцнена напрацоўваюць сабе дыпламы і балы?

**Таццяна ЗАМІРОЎСКАЯ, БелГазета**

# А НАМ НЯ СМЕШНА!

**Камедыйны фільм “Дыктатар” забаронены да паказу ў Беларусі. Гэтая даволі бяззлобная карціна рэжысёра Ларры Чарльза і брытанскага комікаправакатара Сашы Барона Коэна таксама не пабачыць кінатэатраў Туркменістана і Таджыкістана. У Расеі прэм'ера адбылася 17 траўня.**



Адмірал-генерал Аладзін (Коэн), дэспат выдуманай паўночнаафрыканскай краіны Вадэя, варагуе з міжнароднай супольнасцю, тэрарызуе народанасельніцтва, карае смерцю прыдворных за рознае малаважнае глупства і плаціць за сэкс Мэган Фокс і яшчэ пары сотняў зорак шоў-бізнэсу.

Двудушны дзядзька кіраўніка тым часам вядзе таемныя перамовы з сусветным падпольным бізнэсам пра продаж вадэйскіх нафтавых радовішчаў: шалёны пляменнік, натуральна, уяўляе сабою перашкоду. Змоўшчыкі арганізуюць уезд дыктатара на вярблюдзе ў Нью-Ёрк, а затым, перад вызначаным выступам з трыбуны ААН, замяняюць двайніком-казапасам.

Фільм на стадыі промакампаніі выклікаў шэраг нягучных скандалаў: Коэна ў гарнітуры дыктатара і з урнай, «у якой знаходзіцца прах Кім Чэн Іра», не пусцілі на «чырвоную сцежку» оскараўскай цырымоніі, а фільм прэвентыўна забаранілі ў цалкам таталітарнай Туркменіі. Пры гэтым і размах грамадскай абуранасці значна больш сціплы папярэдніх істэрык, і сам «Дыктатар» - значна больш традыцыйныя кіно, чым «Борат» і «Бруна» – знятыя паўпартызанскімі метадамі складанкі непаліткарэктных скетчаў.

Па вялікім рахунку, гэта сатырычная камедыя становішчаў, ды яшчэ і з рамантычнай калізіяйператварэння крыважэрнага дзікуна, «які любоўна прыгнятаў» сваю радзіму, у хай інфантыльнага, але нядрэннага чалавека.

Надзённая тэма - «арабская вясна» і ў рознай ступені крывавы канец рэжымаў Кадафі і Мубарака - тут вырашана з пышнай нігілістычнай бесстароннасцю: поўнымі прыдуркамі выглядаюць і тыран з паслугачамі, і змагары праграмы «дэмакратыя ў абмен на нафту».

Вядома, у фільме шмат зусім дурных жартаў пра ўсіх на свеце (арабаў, уцекачоў, афраамерыканцаў, габрэяў, кампанію Apple, заходніх левакоў і шматлікіх іншых), а таксама разнастайнага «тролінгу» людзей з адказнай жыццёвай пазіцыяй.

Яшчэ маецца гамерычна смешная сцэна на верталёце, якая адсылае да тэракту 11 верасня. Аднак у цэлым «Дыктатар» не ставарае ўражанні нейкай заўзятай і цынічнай агіднасці: сённяшняя палітычная рэальнасць у гэтым сэнсе дасць сто ачкоў наперад таленавітаму артысту Сашы Коэну.

**Паводле: Be-in.ru**

# ТАЯМНІЦЫ ПАДЗЯМЕЛЛЯЎ

**Падвалы і склепы Берасця, верагодна, хаваюць уваход у турыстычны рай. Журналіст "Брестского курьера" сабраў шмат сведчанняў берасцейцаў пра падземныя хады, якія злучаюць шматлікія аб'екты горада.**



Заўсёды знойдзецца, чым прывабіць турыстаў

### У ВАКЗАЛЬНЫХ СКЛЕПАХ

- Калі была дзіцем гадоў дзесяці,- паведамляе Таццяна Мікалаеўна Лазеба, - чула ад дзядулі, што дзесьці ў годзе так 1949-м яны вырашылі паглядзець, куды вядуць падземныя хады Брэста. А ён да вайны працаваў у Брэсцкай крэпасці, на будаўніцтве ўмацаванняў, мясцовасць і наваколле ведаў добра. Паглыбіліся яны, па яго словах, з падвалаў Брэсцкага вакзала. Доўга ішлі, потым заблукалі. Выйшлі на паверхню толькі праз тры дні…у 15 кіламетрах ад горада.

Навуковы супрацоўнік Музея абароны Брэсцкай крэпасці Алена Грыцук пацверджаняў гэтай інфармацыі не мае. Але успомніла гутарку з памерлым настаяцелем праваслаўнага Свята-Мікольскага храма. Той згадваў пра магчымасць прайсці пад зямлёй з Цытадэлі ў форт Гаўрылава. А гэта ж пад Мухаўцам!!!

Краязнаўца Ірына Лаўроўская выказала мала аптымізму наконт падземнага Брэста. Яна мяркуе, што хутчэй за ўсё быў пабудаваны адзін тунэль ад крэпасці да гасцініцы "Буг".

Кіраўнік музея Чыгуначнага вакзала Сава Ціханавіч Шпудзейка зацікавіўся тэмай. Ён паказаў дзве старыя размытыя фатаграфіі. "Ёсць у скляпах вакзала дзве шырокія жалезныя трубы. Пад ухілам сыходзяць у бок Брэсцкай крэпасці. Але ашалёўка ў трухлявым стане. І яны метраў праз 15 закладзены мурам".

### ПРАЗ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЛІСЯ

Пасля публікацыі матэрыяла ў рэдакцыю пачалі пісаць і тэлефанаваць людзі, якія маюць дадатковую інфармацыю.

Чытач Анатолій Фёдаравіч паведаміў наступнае:

- Калі разбіралі руіны былой тытунёвай фабрыкі па вуліцы Арджанікідзэ, адкрыўся ўваход у склеп. Са склепа працоўныя змаглі прайсці падземным калідорам у бок Брэсцкай крэпасці даволі шмат, але потым пабаяліся і вярнуліся. Зараз уваход заплялі дротам, каб не лазілі. Але, думаю, пры жаданні ўвайсці можна.

Журналіст выправіўся па адрасе. Сапраўды, ён знайшоў паўпадвал. Але ўваходу ў падземны калідор пакуль знайсці не атрымалася. Калодзеж побач, зачынены жалезнай плітой, аказаўся запоўненым вадой.

Наступны наведвальнік рэдакцыі Барыс Паўлавіч распавёў гісторыю, якую яму перадалі яшчэ ў 50-я гады два берасцейцы -- былы начальнік гараддзела міліцыі Аўчыннікаў і былы міліцыянер Талмачоў.

Адразу пасля вайны побач з вёскай Цюхінічы прыцiснулі да ракі Лясной "банду бульбашоў" (ці "бульбаўцаў", украінскіх нацыяналістаў, названых ад імя атамана Бульбы). І раптам яны як праз зямлю праваліліся. Потым абвясціліся ў раёне чыгуначнага вакзала. Заселі "бульбаўцы" ў царкве, на месцы цяперашняга клуба чыгуначнікаў. Урэшце міліцыянеры пайшлі на штурм. Адна група атакавала прама "ў лоб", другая - пракралася туды па ходзе з боку Цюхінічаў, успамінаў Барыс Паўлавіч аповяд двух сваіх знаёмых. Раней быў побач з клубам аркавы ўваход у нейкую падземную камунікацыю. Пазней яго засыпалі, а зараз на яго месцы яма.

### ХТО ЖЫВЕ ПАД АСФАЛЬТАМ?

Інтэрнэт-карыстальнікі паведамілі і пра вялікую пустэчу пад вуліцай Гогаля, якую прыйшлося запаўняць бетонам пры ўсталёўцы помніка 1000-годдзю Брэста. Гэта сведчанне дапоўніў яшчэ адзін чытач: Station Станіслаў працуе ў будынку на скрыжаванні вуліц Пушкінскай і Савецкай. У падземных лабірынтах жылі пацукі, якія праз падвал вылазілі наверх і надакучвалі яму і калегам. "Так што камунікацыі прыйшлося адсекчы, у сэнсе замураваць". Па словах Станіслава,частка менавіта гэтага ходу залілі бетонам, калі ўсталёўвалі помнік на вуліцы Гогаля. Ход сканчаецца нібы, па сведчанні трэціх асоб, дзесьці па той бок праспекта Машэрава.

Святло праліў на гэтыя гісторыі яшчэ адзін старажыл Брэста - Аляксей Паўлавіч. Аказваецца, пад вуліцай Савецкай сапраўды, пачынаючы ад скрыжавання з Пушкінскай і да вуліцы Дзяржынскага, ёсць падземны праход у рост чалавека. Гэта калектар польскіх часоў. Адпаведна, ён не сухі, а досыць смуродны і ці наўрад можа быць прыстасаваны для турыстычных патрэбаў.

### ШЛЯХАМІ АСУДЖАНЫХ

А вось будынак па вуліцы Астроўскага, 12, дзе раней была польская жандармерыя, у гэтым сэнсе значна перспектыўнейшы. І да яго, і ад яго павінны існаваць хады, па якіх вадзілі ў свой час арыштаваных і асуджаных дзеячаў КПЗБ (самая вядомая з іх Вера Харужая). Аляксей Паўлавіч распавёў, што некалькі дзесяцігоддзяў таму ён сам з сябрамі хадзіў па гэтых тунэлях.

Пра гэта ж паведамляе і чытач у каментарах да артыкула на сайце: "пры рэканструкцыі будынка суда брэсцкага раёна знайшлі тунэль, накіраваны ў бок Брэсцкай крэпасці".

Што ж замінае адкрыць падзямелле для турыстаў? "Рэжымнасць" аб'ектаў? Здавалася б, так, асабліва ў выпадку будынка суда. Але ўсё не так адназначна.

Па-першае, менавіта суд Брэсцкага раёна адчынілі кіношнікам "Лада" ў 2008 году, калі пры рамонце знайшлі выйсце падземнага ходу, пра які ідзе гаворка. Працытуем аўтара фільма "Таямніцы брэсцкіх падзямелляў" Аляксандра Бугрова: "…сказалі, што ход трухлявы і, як і сам будынак, можа паваліцца. Таму яго замуруюць".

Па словах начальніка адной са шматлікіх службаў, якія мясцуюцца на Астроўскага,12 , "падвалы замкнёныя на ключ, і ніхто там не быў з часу засялення". Дадзены будынак, які ўваходзіць у рэестр гістарычных каштоўнасцяў, па некаторых звестках, наогул плануецца пад знос дзеля інвестыцыйнага бізнэс-праекта.



Пад чыгуначным вакзалам

### УВАХОДЫ Ў ПАДЗЕМНЫ СВЕТ

Наступны юзар расказаў пра "падземныя хады ў раёне Паўночных варот Брэсцкай крэпасці з аплаўленымі фашысцкімі агнямётамі цаглянымі зборамі". Журналіст знайшоў гэтыя хады. Здаецца, там нават некалькі паралельных, яны і сапраўды цяжкадаступныя, паколькі вузкія і засыпаны пяском. Відавочна, што казематы тут падземныя дзякуючы насыпной зямлі (валы Брэсцкай крэпасці дасягаюць у вышыню дзесяці метраў). Зводы ўсярэдзіне насамрэч усе пачарнелі, з іх звісае абгуленая ад тэмпературы цэгла. Жудасць…

Калі гэтыя хады і можна было б раскапаць, выведуць яны да праезду ў канцы гэтай самай шырокай выспы крэпасці, у раён моста Шаблоўскага. Па ландшафце гэта відавочна.

Наступны пункт, на які паказалі гараджане, - Плошча свабоды і лячэбна-кансультатыўная паліклініка, якая знаходзіцца на ёй. Па просьбе журналіста загадчык гасчасткай паліклінікі Георгій Якаўлевіч Шахаў без асаблівага, праўда, аптымізму паказаў стары склеп хаты яшчэ польскай забудовы, пераўтвораны ў бамбасховішча. З яго вядзе за сцяну ў панадворак вузкі стандартны лаз - вентыляцыя, яна ж аварыйнае выйсце. Малацікава…

Але раптам гаспадар пабег наверх, потым паклікаў мяне - і вось ужо медсястра Святлана паказвае на тратуары месца, дзе два гады таму назад пры рамонце будынка праваліўся ў падземную камунікацыю … трактар "Беларус". "Усім колам. Дасталі, ход засыпалі. Ён вёў на той бок плошчы, да хат старой забудовы".

Працяг гл. на стар. 8

Паводле: «Брестский курьер»

# У ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ ЗОНУ
## ТРАПІЎ БЕРАСЦЕЙСКІ СТУДЭНТ

**Дакладней не ў Чарнобыль, а ў зону адсялення ў Гомельскай вобласці. Студэнт Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта стаў удзельнікам вандроўкі напярэдадні ўгодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якую арганізавала АРР "Дзедзіч". Мы пагутарылі са студэнтам, які пабываў у чарнобыльскай зоне.**



Разам з ім зону адсялення пабачылі яшчэ пяць берасцейцаў.

Мы пагутарылі са студэнтам, які пабываў у чарнобыльскай зоне.

**- Скажы, якім чынам ты патрапіў у зону адсялення?**

- Я даведаўся пра вандроўку выпадкова, праз газету "Дзедзіч". Запрашэнне ў паездку пабачыў і ў суполцы "Дзедзіча" "Укантакце". Набіралася група, і я вырашыў паехаць. На месцы вандроўку ладзіў Гомельскі дэмакратычны форум. Выехалі мы ў пятніцу 20 красавіка, у суботу мы былі ў Гомелі, паглядзелі горад. А ў нядзелю рушылі ў Веткаўскі раён на паўночны усход Гомельшчыны.

**- Як вас прапусцілі туды, ці не ўзнікла праблемаў?**

- Мы чакалі, што там будуць блок-пасты, нейкія іншыя патрулі аховы. Бо там жа высокі ўзровень забруджанасці цэзіем. Мы думалі, што будзе ахоўвацца. Аднак нічога такога не было.

**- І што ж вы пабачылі ў зоне адсялення?**

- Там ідзе велізарная закінутая тэрыторыя. Аднак, як ні дзіўна, зараз гэтыя землі пачынаюць вяртаць у абарот. З намі быў эколаг, які распавёў, што за 20 гадоў на тое, каб ачысціць зямлю, было выдаткавана больш за 20 мільярдаў даляраў. Гэта каб зямлю зрабіць прыдатнай для сельскай гаспадаркі. Там ідзе цэлая тэхналогія – глыбокае абворванне, апрацоўка адмысловымі ўгнаеннямі і гэтак далей.

Перад уездам у зону, абазначаную знакам "Радыяцыйная небяспека", стаіць царква. Яе пабудавалі нядаўна, і, кажуць, на вялікія грошы. Праўда застаецца незразумелым, навошта тая царква ў зоне адсялення.

**- А ці сустракалі нейкіх людзей?**

- Не, не сустракалі. Але з намі ездзіў чалавек, які жыў там, у пасёлку Хізы, які цяпер адселены. Ён нам паказваў, дзе што было ў тым пасёлку – там школа, там крама… Крыху не па сабе было яго слухаць… Ад пасёлку захаваліся каменныя будынкі, а ўсе драўляныя былі знесеныя. Бульдозеры там усё зраўнялі з зямлёй. Захаваліся яшчэ пару помнікаў тутэйшым жыхарам, што загінулі у вайне і могілкі.

Чалавек, які там жыў, распавядаў, як адбывалася адсяленне. Многія жыхары сталага веку не хацелі выязджаць, казалі, што ім ужо няма чаго баяцца радыяцыі, бо хутка паміраць. Аднак прыехалі вайскоўцы і ўсіх да аднаго адтуль выселілі. Пры гэтым людзям не дазволілі нічога з сабой узяць, бо ўсё ж забруджанае. Уявіце, якая гэта была трагедыя, калі людзям давялося пакінуць маёмасць, якую збіралі цягам жыцця! Таму зразумела, чаму той былы жыхар гэтага пасёлку ледзь не плакаў, калі распавядаў пра ўсё гэта.

**- То бок ніякай жыццядзейнасці там не прысутнічае?**

- Самае цікавае, што зараз там пачынаецца нарыхтоўка лесу. Гэта вельмі здзівіла. Бо разбітыя дарогі, нікога няма ў 30 хвілінах язды, і раптам з-за лесу з'яўляецца высечаныя дрэвы. У некаторых месцах мы бачылі гурты нарыхтаванага да вывазу лесу…

Акрамя таго, высветлілася, што на гэтай закінутай тэрыторыі бываюць і паляўнічыя. На адным скрыжаванні, якое прастрэльваецца добра ва ўсе бакі, мы бачылі шмат гільзаў ад паляўнічых стрэльбаў. А ў адным закінутым доме былі скуры дзікоў. Жыхар з гэтай вёскі распавёў, што паляўнічыя забіраюць мяса, а скуры пакідаюць тут.

Аказалася, што перашкаджаюць паляваць тут толькі знакі радыяцыйнай небяспекі. Узнікаюць пытанні, куды потым падзенецца мяса, якое вывозяць адсюль? Самі гэтыя паляўнічыя з'ядуць, ці прададуць тым, хто ня ведае?

Яшчэ, цікава, што адтуль вынесены ўвесь метал, нідзе няма правадоў. Гэта ж, напэўна, металаломшчыкі тут таксама "палявалі"…

**- Якія ўражанні асабіста для цябе? Што новага ты атрымаў з гэтай вандроўкі?**

- Я атрымаў больш пытанняў, чым адказаў. А ўражанні… Мяне здзіўляюць тыя захады, што быццам бы робяцца ў нашай краіне для таго, каб мінімалізаваць наступствы чарнобыльскай катастрофы… Я ведаю, што пабудавалі радыяцыйны шпіталь нейкі ў Гомелі, адчынілі навукова-даследчы інстытут радыяцыйны. Гэта плюс.

Але тое, што імкнуцца найхутчэй засяляць закінутыя тэрыторыі, што належным чынам іх не ахоўваюць – гэта дрэнна.

І вось, я сабе хачу купіць дазіметр, бо не ведаю з чаго зроблены мой стол і іншая мэбля… А раптам з таго лесу, што там высякаецца?

**- Якое меркаванне ў цябе наконт будаўніцтва АЭС у Астраўцы пасля гэтай вандроўкі?**

- Я не адмысловец у атамнай энергетыцы. Калі папраўдзе, я проста не давяраю сённяшнім кіраўнікам, якія будуюць. Калі б гэта ўсё было адкрыта і празрыста, я можа б і быў "за". Але зараз я супраць.

**Гутарыў Паўло Косьцін**



Нарыхтоўка лесу ў чарнобыльскай зоне

# ТАЯМНІЦЫ ПАДЗЯМЕЛЛЯЎ

Пачатак гл. на стар. 7

У падвале Георгій Якаўлевіч паказаў месца на сцяне, дзе магчыма было выйсце ў засыпаную патэрну (падземны калідор, галерэя). Гаспадар падвала ўспомніў яшчэ адну версію і патэлефанаваў свайму даўняму знаёмаму.

**ТУРЭМНЫМІ КАЛІДОРАМІ**

Праз две гадзіны берасцеец Валянцін Іванавіч Корнеў ужо казаў пра падземны ход у кіламетры адгэтуль.

Будынак па Карла Маркса, 95 тарцом выходзіць на вуліцу Інтэрнацыянальную. Як сведчыць Валянцін Іванавіч, яно «польскего часу». У 1992 году Валянціна Корнева прызначылі дырэктарам камбіната электратэхнічных вырабаў, якое змяшчалася ў гэтым будынку. "Калі я ў першы раз туды прыйшоў, звярнуў увагу: у падвале ў сцяне быў праход за падмурак хаты, - узгадвае ветэран. - Казалі, што раней у будынку было нейкае польскае сілавое ведамства, і гэты ход вёў у турму. Потым яго чымсьці знутры прычынілі. Быў і другі ход, у бок Брэсцкай крэпасці".

Турма, ў якую вядзе першы ход, пабудаваная англічанамі ў пачатку мінулага тысячагоддзя. Там пасля вайны змясцілі, ды так і не прыбралі швейную фабрыку "Дынама".

Валянцін Іванавіч Корнеў распавёў і такую гісторыю: раней хадзіла гаворка пра тое, што з боку польскай дефензівы (вуліца 17-га Верасня, будынак былога дзяржархіва) пад цяперашнім праспектам Машэрава і пляцоўкай, на якой стаіць помнік Афанасія Філіповічу, быў падземны ход да турмы. Адзін з супрацоўнікаў пошты сказаў, што такі ход быў, але толькі ад цяперашняга паштамта, і яго засыпалі пры рамонце.

**АДПРАВІЦЬ ТУРЫСТАЎ У ТАРТАРАРЫ**

Чаму б не арганізаваць турыстычныя маршруты па берасцейскаму падзямеллю? Тым больш, маскоўскія турысты даўно скардзяцца, што ў павячэрні час з вакзала да Мемарыяла не дабрацца. А тут добраўладкаваны шпацыр з пракатам электрычных ліхтарыкаў, купляй буклетаў, значкоў, з'яўленнем шкілета "Патурбаваны берасцеец" і яго трансфармацыяй у экскурсавода.

Шмат гадоў таму ў адным нямецкім мястэчку давялося ночыць у былой Натаўскай казарме. Шэсць паверхаў, з іх чатыры пад зямлёй. Менавіта пад зямлёй мы і спалі. Глуха, як у танку. І нават рамантычна. Спалася выдатна. Няўжо нельга спакусіць госцяў нашага горада ночкай у савецкім бамбасховішчы? З калідорам у трыста метраў.

Пры правільным падыходзе падзямеллі прынеслі б гораду вялікія грошы.

**Паводле:**
**Яўген БЯЛАСІН, "Брестский курьер"**

# МОВЫ, ЯКІЯ ВЫЖЫЛІ

## ЧАСТКА 2: ЯК УДАСКАНАЛІЦЬ МОВУ?

**Беларуская мова спецыялістамі лічыцца знікаючай. Сёння звычайныя людзі ўжо адчуваюць цяжкасці ў карыстанні беларускай мовай у паўсядзённым ужытку. Многія ж энтузіясты-патрыёты гараць ідэяй выратаваць родную мову, аднавіць ва ўсім яе багацці і прыстасаваць да патрэб сучаснага грамадства.**



Але мовазнаўцы вам адкажуць, што аднавіць мёртвыя элементы, якія выйшлі з ужытку, а тым больш стварыць новыя, не атрымаецца. Мова – гэта сістэма, якая развіваецца сама сабой, і магчымасці ўмяшальніцтва чалавека ў гэты працэс абмежаваныя.

Няўжо беларусам застаецца пакорліва глядзець на затуханне роднай мовы?

На шчасце, ў мове ёсць-ткі тры сферы, куды чалавек можа усунуць свой нос і нешта там памяняць.

### КАЛІ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ НЕ ПРЫНОСІЦЬ КАРЫСЦІ

Першая сфера – гэта моўныя нормы. Літаратурная мова – а на "жаргоне" філолагаў яна азначае не тую мову, на якой пішуцца літаратурныя творы (дакладней, не толькі тую), а мову "правільную", урэгуляваную, адзіную для ўсёй нацыі афіцыйную мову – дык вось, літаратурная мова сама па сабе з'явіцца не можа, яе трэба ствараць штучна.

Што гэта значыць? Уявіце сабе тэрыторыю нейкай краіны, напрыклад, Францыі XVII стагоддзя. Народ гэтай краіны гутарыць паміж сабой на нейкай мове. Вядома, на французскай. Але не зусім. У паўночных рэгіёнах размаўляюць так, у Правансе іначай, барон свайму суперніку прэтэнзіі пасля балю будзе выказваць адным чынам, а гандлярка з суседкай на рынку лаецца ўжо зусім па-іншаму. Дзяржаўныя ж законы занатоўваюцца на дыялекце Іль-дэ-Франс, але кожны пісар піша па-свойму - ніхто не ведае, як правільна.

Трэба ўлічваць, што ў гэты час Францыя ўжо ўяўляе сабой моцную дзяржаву пад кіраўніцтвам аўтарытарнага манарха. Усім становіцца відавочна, што мова гэтай дзяржавы павінна адпавядаць яе палітычнаму статусу. Стварыць такую мову бярэцца Французская акадэмія па ініцыятыве кардынала Рышэльэ.

Акадэмікі пачынаюць вырашаць, які з мноства маўленчых варыянтаў лічыць правільным. Вядома, часцей за ўсё эталонам лічылася маўленне адукаваных дваран сталіцы. Такім чынам тое, што высокім чальцам Акадэміі падавалася прыгожым, станавілася правілам для ўсіх. Напрыклад, Клод Вожля патрабаваў замены артыкля *des* на *de*, калі прыметнік знаходзіцца пасля назоўніка ў множным ліку.

Праз пэўны час выходзіць слоўнік французскай мовы, і з гэтага моманту ўсе землі вялікай Францыі павінны выкарыстоўваць тыя словы, якія змешчаны ў ім.

Па ўзору французскай была створана Расейская акадэмія. У яе статуце, напісаным княгіняй Дашковай, паведамлялася: *"Российская Академия долженствует иметь предметом своим вычищение и обогащение российского языка, общее установление употребления слов оного. К достижению сего предмета должно сочинить прежде всего российскую грамматику, российский словарь, риторику и правила стихотворения"*. А "сочинил" усё, чаго нехапала расейскай мове, Міхайла Ламаносаў.

Прыкладна тое ж у дачыненні да беларускай мовы зрабіў Браніслаў Тарашкевіч, калі у 1918 годзе выдаў першы (на сучасным этапе) падручнік па граматыцы.

### ПАКУТЫ ШКОЛЬНІКАЎ

Яшчэ адна сфера, куды мы можам асэнсавана ўмешвацца, гэта арфаграфія. Яна дыктуе, як правільна перадаваць на паперы тое, што мы вымаўляем і чуем. У працэсе развіцця амаль кожнай мовы людзі ў пэўны час адкідваюць непатрэбныя знакі пісьма і выдумляюць новыя для гукаў сучаснай мовы. Напрыклад, старажытнарускае пісьмо, якое складзена па ўзору грэцкага, выкарыстоўвала тры літары для гука "і", дзве для *"о"* і *"ф"* і яшчэ шмат чаго непатрэбнага. Адмяніць гэта здагадаліся толькі пры Пятры І. Але часта людзям шкада адмаўляцца ад старых правіл дзеля зручнасці. Так, расейскамоўныя школьнікі пакутуюць над спалучэннямі *"жи", "ши"*, якія дагэтуль пішуцца з «и», хаця мяккасць гукі *"ж"* і *"ш"* страцілі ужо ў XV ст.

Беларуская ж мова, наадварот, згубіла ад беспадстаўных рэформаў. У 30-я гады, у разгар рэпрэсій супраць нацыянальна-культурнага руху на Беларусі, была праведзеная рэформа правапісу. Афіцыйная яе мэта – *"падпарадкаванне беларускага правапісу задачам выхавання працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму"*. Новыя правілы, напрыклад, адмянялі пастаноўку *"ь"* паміж мяккімі зычнымі (*"свет"* замест *"сьвет"*).

> МНОГІЯ БЕЛАРУСЫ ПАЧАЛІ ГЭТЫЯ ЗЫЧНЫЯ ВЫМАЎЛЯЦЬ ЦВЁРДА: БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ВУЧАЦЦА ПА КНІЖКАХ, А ТАМУ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ТАК, "ЯК ПІШАЦЦА".

Такім чынам мова губляе адну з сваіх фанетычных адметнасцяў і набліжаецца да рускай.

### ПРАСТОР ДЛЯ СЛОВАТВОРЧАСЦІ

Наступная сфера мовы, якая не толькі дазваляе, але і патрабуе нашага актыўнага ўдзелу, гэта тэрміналогія. Дзядзька Ламаносаў у свой час сядзеў і выдумваў расейскія словы для навукі, якая нарэшце з Еўропы дабралася да суровых прастораў Расеі: *"движение"," равновесие"," частица"* - вось якія цудоўныя тэрміны нарадзіліся ў ягонай галаве.

Прыкладна тое ж ніхто не забараняе зрабіць і нам.

### НЯЗГОДЛІВАЯ ГРАМАТЫКА

Усе астатнія сферы мовы – фанетыка, агульная лексіка, марфалогія, сінтаксіс – нам не падпарадкуюцца. Колькі б мы ні выдумлялі новую часціну мовы альбо трэцяе спражэнне дзеяслова, у жывым маўленні людзей гэта ніколі не прыжывецца.

А шкада. Бо гісторыя паказвае нам, што ў краінах, дзе існавала двухмоўе і адна з моваў пачала выцясняць іншую, граматыка хутка разбуралася, лексіка бяднела. "Забытыя" моўныя сродкі – словы і граматычныя формы – запазычваліся з канкуруючай мовы. Менавіта так павольна згасала ў Германіі XVII стагоддзя славянская мова палабян.

### УСЁ НЕМАГЧЫМАЕ - МАГЧЫМА

Гісторыя ведае толькі адзін (затое які!) прыклад, калі народу атрымалася літаральна "стварыць" сабе мову. Вядома, гэта асаблівы народ, які выкруціцца з усялякай, нават самай безнадзейнай, на думку іншых дурняў, сітуацыі.

Першапачатковая мова габрэяў – старажытнагабрэйская, мова Старога запавету – пачала выходзіць з ўжытку ўжо ў канцы І тыс. да н.э. Новы Запавет напісаны на грэцкай, якая разам з арамейскай стала асноўным сродкам зносін на Святой зямлі.

Пасля выгнання габрэі пачалі засвойваць мову таго народа, на тэрыторыі якога жылі. У межах дыяспар Сярэдняй Еўропы на базе нямецкіх дыялектаў ўзнік ідыш. Святарства ж і рэлігійная адукацыя ажыццяўляліся на старажытнай мове Старога запавета.

Але ўжо ў XIX ст. габрэі Усходняй Еўропы пачынаюць вяртаць старажытнагабрэйскую мову (іўрыт) у шматлікія сферы жыццядзейнасці. Пішуцца літаратурныя творы, выдаюцца слоўнікі з сотнямі неалагізмаў.

Са стварэннем дзяржавы Ізраіль іўрыт становіцца афіцыйнай мовай, на якой могуць размаўляць перасяленцы з розных бакоў свету. Дагэтуль ізраільскія вучоныя працуюць над узбагачэннем мовы габрэяў. Яны ствараюць новыя словы са старымі каранямі па законах габрэйскай граматыкі. Напрыклад, слова кампутар (*махшэб*) створана ад кораня "лічыць". У слоўніку сучаснага іўрыта слоў у 15 разоў болей, чым у біблейскай старажытнагабрэйскай мове.

**Альбіна ТРУС**

**P.S. Мы будзем працягваць тэму "Мовы, якія выжылі". У наступнай частцы чытайце пра мовы краінаў, якія перажылі каланіяльную экспансію, а таксама пра тое, ці будзе ўвесь свет размаўляць на адной мове.**



**Літары «Ксі» і «Псі» заставаліся ва ўсходнеславянскай азбуцы да рэформы Пятра І**

# ЖУРНАЛІСТЫ: ЯКАЯ АД ІХ КАРЫСЦЬ?

**Травень – вясёлы месяц для журналістаў. Яны адзначаюць цэлы шэраг святаў: Дзень друку, Дзень радыё, і галоўнае – Дзень свабоды прэсы.**

На жаль, для многіх з нашых суайчыннікаў сёння застаецца незразумелым, чаму на захадзе так шануюць нейкую свабоду слова. Ад яе ж у кішэні не прыбавіцца, і на батон яе не намажаш. Гісторыі пра шырокія правы і нават уладу, якія маюць тамтэйшыя журналісты, нам падаюцца забабонамі.

Дык навошта патрэбная грамадству свабодная прэса?




**ЧАЦВЁРТАЯ ЎЛАДА**

Мы усе ведаем, што у аснове рэспубліканскага ладу закладзены прынцып трох галін ўлады (суд, прэзідэнт і парламент), якія павінны кантраляваць адна другую і прадухіляць тым самым выпадкі злоўжыванняў і падману. Але часцяком некаторым інстытутам і асобам атрымоўваецца пакінуць свае злачынствы незаўважнымі. Вось тут уступае ў сілу чацвёртая ўлада – сродкі масавай інфармацыі. Яны павінны расследаваць і выкрываць любыя парушэнні закону і няшчырыя дзеянні ўладаў.

> ЧАЦВЁРТАЯ ЎЛАДА ПРАДСТАЎЛЯЕ НАРОД І ВЫСТУПАЕ АД ЯГО ІМЯ

Самы яскравы прыклад таго, які ўплыў маюць СМІ на астатнія тры ўлады, з'яўляецца так званы Уотэргейтскі скандал, які прывёў да адстаўкі прэзідэнта. Прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан з дапамогай спецслужбаў праслухоўваў перамовы сваіх палітычных супернікаў. Гэта адбывалася перад выбарамі, дзе Ніксан быў пераабраны на другі тэрмін. Журналісты The Washington post правялі расследаванне і выкрылі няшчырыя дзеянні прэзідэнта.

**ВАРТАЎНІЧЫ САБАКА**

Журналіст павінен адклікацца на ўсе выпадкі падману, несправядлівацi, жорсткасці ў дачыненні да простага чалавека і "гаўкаць" на парушальніка. Пад кантролем "сабакаў" павінны быць не толькі ўлады, але і багатыя асобы, грамадскія актывісты, ды і звычайныя людзі, ад якіх пакутуюць іншыя.

Шведскі грамадскі актывіст Улоф Пальме, які трагічна загінуў ад рукі забойцы, меў рэпутацыю міратворца і добрую памяць сярод суайчыннікаў.

Аднак журналісты шведскай радыёстанцыі "Эха" выкрылі дзейнасць абароннага прадпрыемства "Буфарс", якое займалася нелегальнай пастаўкай зброі. У гандлі зброяй прыймаў удзел і Пальме. Матэрыялы шведскага радыё скампраметавалі таксама і індыйскага прэм'ера Раждыва Гандзі, які прымаў удзел у пагадненнях з "Буфарсам". На гэтым яго палітычная кар'ера скончылася.

**ЛЮСТРА ПЕРАД ТВАРАМ ГРАМАДСТВА**

Люстра павінна дакладна і шчыра паказваць станоўчыя і адмоўныя бакі грамадства. Акрамя дасягненняў і поспехаў, журналісты ўвесь час павінны звяртаць увагу на хібы і хваробы нашага жыцця. А людзі – чытачы і гледачы – даведаўшыся пра гэта, павінны іх выпраўляць.

Так працуюць сапраўдныя журналісты. Як яно адбываецца рэальна ў нашай краіне, пісаць не будзем. Вы і так ведаеце. Калі не ведаеце – уключыце беларускі тэлеканал.

**Петрык Чапля**

# ХТО НЕ ВЕДАЕ СКАРЫНУ,
## ТОЙ ФІЛІП КІРКОРАЎ!

**«А вот и новоиспеченный Орденоносец Франциско Скорины!» - выставіў і падпісаў у сябе ў твітэры гэтае фота Філіп Кіркораў (аўтарская арфаграфія).**

Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў Кіркорава ордэнам Францыска Скарыны за "значны асабісты ўнёсак у развіццё і ўмацаванне беларуска-расейскіх культурных сувязяў, высокае выканальніцкае майстэрства".

Праўда, узнагароджваў "медалем" народнага артыста Расеі і Украіны не Лукашэнка, а міністр культуры Павал Латушка. Падчас цырымоніі Латушка не прамовіў ні слова. Проста выйшаў на сцэну, начапіў ордэн на пінжак і выдаліўся за кулісы.

Кіркораў не заплакаў, а акурат падчас фінальнай песні дастаў з кішэні мабільны тэлефон і пачаў фатаграфаваць сябе з ордэнам на грудзі на фоне гледачовай залы.

- Філіп Бядросавіч, а вы ведаеце, хто такі Скарына? - спытала спевака перад цырымоніяй узнагароджання «Камсамолка».

- Вы што мяне цяпер іспытваеце? Да пабачэння.

Дарэчы, з расейскіх артыстаў ордэнам Скарыны Лукашэнка ўзнагароджваў Мікалая Баскава, Надзею Бабкіну, Аляксандру Пахмутаву, Мікалая Гнацюка, Юрыя Антонава і іншых выканаўцаў.

Інтэрнэт-блогеры мяркуюць, што такім чынам Лукашэнка помсціць Францыску Скарыне, які стаў прычынай шматлікіх жартаў і кпінаў на адрас прэзідэнта. (Нагадаем, што аднойчы ў эфіры тэлеканала Аляксандр Рыгоравіч распавядаў, што Скарына ездзіў у Пецярбург). Нелюбоў на першадрукара выявілася яшчэ, напрыклад, у тым, што галоўны праспект Менска, які называўся імем Францыска Скарыны, кіраўнік дзяржавы перайменаваў у праспект Незалежнасці.



Фота з асабістага архіва Філіпа Кіркорава

**dzedzich.org**

# МОЯ МОЛОДОСТЬ ДЕЛАЕТ ДЕНЬГИ

**Нормальному среднестатестическому амбициозному человеку рано или поздно приходит в голову вопрос, достиг ли он чего-нибудь в своей жизни.**

Мы расскажем об успешных молодых людях, которые сколотили свое сосотояние в совсем юном возрасте Показ юных дарований открывает Эшли Куолс.

Родилась она в штате Мичиган США, в 1990 году.

В возрасте 14 (!) лет она создала небольшой сайт под названием WhateverLife, в котором выкладывала шаблоны для соцсети Myspace и консультировала по основам HTML.

Шаблоны народу приглянулись, и мало-помалу посещаемость Whateverlife превзошла совокупный трафик популярных подростковых онлайн-журналов. Whateverlife привлекает более 7 млн. человек и 60 миллионов просмотров сайта в месяц.

Начинала она свой бизнесс дома за кухонным компьютером. В свои 17 Эшли была уже самым настоящим интернетным профессионалом. Меньше, чем через 2 года после разворота своего дела она бросила школу и купила дом.

В те же 17 лет ей уже поступило предложение о покупке её маленькой «компании» за 1.5 миллионов долларов.

«Я пришла в нужное время с нужной идеет в нужное место. Я дала девочкам то, чего они хотели».

**Маліяна**

# ЯК ПРАВЕСЦІ ЛЕТА

## ПОИСКИ УТРАЧЕННЫХ КОЛЛЕКЦИЙ РОДА РАДЗИВИЛЛОВ

Белорусские клубы ЮНЕСКО приглашают в увлекательное путешествие – на поиски утраченных коллекций рода Радзивиллов, связанных с Несвижским замком.

Республиканское общественное объединение «Белорусская Ассоциация клубов ЮНЕСКО», клуб ЮНЕСКО «Пошук» Повстынской СШ Слуцкого района, в рамках Комплекса мер по реализации государственной молодежной политики в 2012 году, осуществляет проект «Утраченные коллекции», приуроченный поиску артефактов, связанных с родом Радзивиллов и с Несвижским замком.

**Главная цель проект**а – поиск предметов, связанных с родом Радзивиллов и Несвижским замком, с целью их изучения и передачи в фонды музея Несвижского дворцово-паркового комплекса.

Учасники будут иметь возможность ближе познакомится с историей нашей страны, с её архитектурным наследием, а также научиться организации исследовательских экспедиций.

**Место проведени**я: Несвижский район, Минской области.

**Сроки проведения:** с 20 по 28 июня 2012 года.

**Взнос участия:** 158.000 рублей (родительская доплата за лагерь).

**Бытовые условия:** палаточный лагерь.

**Средство передвижения:** велосипед.

**Количество участников:** 22 человека в возрасте 14-18 лет.

Участники проекта обеспечиваются туристическим инвентарем и питанием.

Набор участников проекта осуществляется на конкурсной основе . Для заявки необходимо заполнить анкету участника проекта (Анкета).

**Заявки принимаются**я до 31 мая на электронный адрес ksusha-mail_@inbox.ru

Контактный телефон: +375445746358 (Житини Игорь Михайлович)

## МОЎНАЯ ШКОЛА PONTES

Школа Pontes - гэта тыднёвы (3-12 ліпеня ў Вільні, 2-7 ліпеня ў Коўне), інтэнсіўны курс польскай мовы для моладзі (да 24 гадоў), які вядзецца студэнтамі з Польшчы.

МШ Понтэс гэта:

• 4 гадзіны заняткаў штодзень
• маленькія групы (4-6 чалавек)
• групы для пачатковага, сярэдняга і прасунутага ўзроўняў
• вучэбныя матэрыялы
• вячэрні агляд фільмаў
• малады калектыў выкладчыкаў
• прыемная вучоба

Кошт: бясплатна (толькі 30 літаў за ксеракопіі/падручнік)

Тэрмін запісу: 6 VI 2012

Адкрыццё Моўнай Школы адбудзецца:

- 3 ліпеня (аўторак) у 17:30 у Вільні
- 2 ліпеня (панядзелак) у 9:30 у Коўне.

**Падрабязней**:
www.pontes.cba.pl



## КОНКУРС ТВОРЧЫХ ПРАЦ "ПРАЦЭСЫ:ДЭ"

Калі ты малады, таленавіты, неабыякавы да лёсу сваёй краіны – то гэты конкурс для цябе! "Працэсы:Дэ" – конкурс крэатыўных прац, якія візуалізуюць, адлюстроўваюць лакальныя праблемы рэгіёнаў праз творчасць.

Конкурс абвяшчае ініцыятыва «Необычайно Одарённое Сообщество», «НОС» у межах праекта «Працэсы:Дэ». Мэтай гэтага праекта з'яўляецца актуалізацыя і знаёмства шырокага кола грамадства з характэрнымі праблемамі рэгіёнаў праз творчасць, а таксама знаёмства гледача з унікальным поглядам маладых творцаў, як прафесіяналаў, так і таленавітых аматараў на гэтыя праблемы.

Па выніках конкурса **5 творчых асоб ці творчых груп** пазнаёмяць грамадства са сваімі творчымі праектамі і праз іх – з праблемамі свайго рэгіёна (мясцовасці).

Конкурс запрашае творчыя групы і маладых творцаў з рэгіёнаў Беларусі (**ад 18 да 35 гадоў уключна)**. Наяўнасць мастацкай адукацыі і ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі пры падачы заяўкі не маюць значэння.

Арганізатары забяспечаць творцаў усімі неабходнымі матэрыяламі для візулізацыі іх прац, праектаў.

Усе творчыя праекты і працы будуць размешчаны на вэб-спейсе **www.process-de.by**

Каб прыняць удзел у конкурсе, дашліце заяўку з **10.05 да 6.06.2012** на адрас **rocessDe2012@gmail.com**

**У сваім лісце пазначце наступную інфармацыю:**

CV (месца і год нараджэння, адукацыя, наяўнасць выстаў, творчыя дасягненні);

Творчы праект/працы (канцэпцыю працы; апісанне праблемы, якую візуалізуе праца; фатаздымкі (памер працы не болей за 400 кб; пры неабходнасці - спасылкі на стужкі, відэа-інсталяцыі, перфомансы);

Вашыя кантакты (мабільны тэлефон, электронную пошту).

За развіццём праекта і новымі працамі можна сачыць на старонцы праекта www.process-de.by, а таксама на старонках праекту ў Facebook і VK.

12 чэрвеня прафесійнае журы абярэ 5 лепшых праектаў, з якімі Вы зможаце пазнаёміцца пад час выстаў. Выставы адбудуцца з 14 па 24 чэрвеня 2012г. на альтэрнацыйных экспацізыйных пляцоўках Менску.

## STUDY TOURS TO POLAND – НОВЫ НАБОР!

Удзельнікі будуць мець магчымасць пазнаёміцца з дзейнасцю польскіх акадэмічных цэнтраў, грамадскіх арганізацыі, сустрэцца з вядомымі дзеячамі Польшчы, прыняць удзел у лекцыях, майстар-класах, культурных мерапрыемствах.

Польска-Амерыканскі Фонд Свабоды, Фонд «Барусія», Калегіум Усходняй Еўропы ім. Яна Новака-Езраньскага, запрашаюць актыўных студэнтаў з Беларусі, Малдовы, Украіны і Расейскай Федэрацыі (Бранская, Калінінградская, Наўгародская, Ленінградская вобласці і горад Санкт-Пецярбург) прыняць удзел у Праграме Study Tours to Poland (STP).

ХТО МОЖА СТАЦЬ УДЗЕЛЬНІКАМ STP

У Праграме Study Tours to Poland могуць прыняць удзел паспяховыя студэнты ВНУ, якія актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці і адпавядаюць наступным фармальным патрабаванням:

1. Узрост 18 – 21 год (народжаныя 1 студзеня 1991 – 30 чэрвеня 1994 года).
2. З'яўляюцца грамадзянамі Беларусі, Малдовы, Украіны і Расейскай Федэрацыі.
3. Навучаюцца ў Беларусі, Малдове, Украіне і Расейскай Федэрацыі (у Бранскай, Калінінградскай, Наўгародскай, Ленінградскай абласцях і горадзе Санкт-Пецярбурзе).
4. Маюць дзейсны замежны пашпарт (тэрмін дзеяння не можа быць карацейшы чым да 1 сакавіка 2013 года).
5. Не прымалі раней удзелу у Праграме Study Tours to Poland і Study Tours in Gdynia.

ЯК МОЖНА СТАЦЬ УДЗЕЛЬНІКАМ

Для ўдзелу ў STP кандыдаты праходзяць адбор на конкурснай аснове.

ТЭРМІНЫ РЭАЛІЗАЦЫІ ПРАГРАМЫ

Заявы ад кандыдатаў прымаюцца да 30 чэрвеня 2012.

Інфармацыю пра вынікі конкурсу кожны з кандыдатаў атрымлівае індывідуальна да 31 ліпеня 2012.

Візіты адбываюцца ў кастрычніку і лістападзе 2012 (дакладныя даты ўдзелу будуць паведамляцца прынятым удзельнікам індывідуальна).

Працягласць візіту – 12 дзён

ВЫДАТКІ НА ЎДЗЕЛ У ПРАГРАМЕ

Арганізатар праграмы бярэ на сябе выдаткі на пражыванне і харчаванне на тэрыторыі Польшчы падчас візіту. Арганізатары бяруць на сябе выдаткі па падрыхтоўцы і рэалізацыі праграмы візіту. Удзельнікі атрымаюць запрашэнні, якія даюць права на бясплатныя візы ў Польшчу. Арганізатары не вяртаюць дадатковых выдаткаў, звязаных з атрыманнем візы, напрыклад, з паездкай у консульства. Удзельнікі аплачваюць выдаткі на страхоўку, патрэбную для атрымання візы ў Польшчу.

**Выдаткі на праезд**

Удзельнікі праграмы Study Tours to Poland для студэнтаў бяруць на сябе частку выдаткаў на дарогу, звязаных з паездкай у Польшчу. Удзельнікі з Беларусі атрымліваюць агульную даплату на выдаткі на праезд у памеры да 100 злотых.Выдаткі на зваротным шляху (міжнародны транспарт) бярэ на сябе арганізатар візіта. Ён набывае квіткі на тэрыторыі Польшчы.

**Падрабязнасці**: www.studytours.pl

**www.adukacyja.info**

## ДАРЭЧЫ

- У якіх беларускіх гарадах заробкі большыя за менскія?
- У Вільні, Смаленску і Беластоку.

***

Дарагі Google! Калі ласка, перастань паводзіць сябе як мая дзяўчына. Дазволь мне скончыць сказ, перш чым даваць мне парады. Дзякуй.

***

Хітрыя і каварныя лекары пытаюць, дзе баліць, а потым ціснуць туды.

***

Мне заўсёды трохі сумна, калі красамоўна, вытанчана і тонка абражаеш чалавека, а ён занадта дурны, каб гэта зразумець.

***

Ты чаго такая ўзбуджаная? Што здарылася?
- Падарыла мужу на 23 лютага набор рыбалоўных блешняў.
- Ну, усё правільна. Ён у цябе ўжо 10 гадоў кожныя выходныя на рыбалку з'яжджае. Чаго не так?
- Ён яго ў руках круціў, круціў і пытае: «А што гэта такое?»

***

- Слухай, я не магу зразумець - ты чаго ўвесь час такі гарбаты ходзіш?
- Ааа, гэта проста ў мяне шнур ад слухавак кароткі.

***

Дача - гэта месца, дзе сажанец становіцца дрэвам, семечка - гароднінай, а чалавек - ракам.

***

- А дзе тут руль? - спытаў Гагарын.
- Дзярэўня,- буркнуў Каралеў. - Яшчэ спытай, «А дзе тут лейцы?» Яшчэ «Паехалі» скажы!

***

Сыну начальніка Гідраметэацэнтра ўчора споўнілася 32-35, а насамрэч 28.

***

Пасля таго, як устала на шалі, я зразумела... што на фанціку слова «Кароўка» - гэта не назва, а папярэджанне.

***

Па статыстыцы 90% людзей, якія робяць рамонт у нядзелю раніцай, спяць з мужчынамі.

***

Мужык есць яблыкі, выкалуплівае адтуль семкі і кладзе сабе ў кішэнь. Прапаршчык, убачыўшы гэта, цікавіцца:
- Навошта?
Мужык:
— А гэтыя семечкі ў мяне потым купяць, яны ж інтэлект павялічваюць.
Прапаршчык:
— Можа, і мне адно прадасі?
— Калі ласка, 50 рублёў штука.
Прапар купляе семечка, з'ядае яго і кажа:
— Так на 50 рублёў я мог бы ўзяць цэлых 2 кіло яблыкаў!
— Вось бачыш — адразу паразумнеў!
- Сапраўды... Прадай мне яшчэ дзясятак.

***

- Цікава, а чаму ва ўніверах на 1 верасня пяцікурснікі не цягаюць на плячы першакурсніцу?
- Ты проста ніколі не была ў студэнцкім інтэрнаце...

Пераехала сям'я маскалёў у Беларусь. Прыходзіць аднойчы іхні сын пасля ўрокаў дахаты ды кажа пабеларуску:
— А ў нас у школе ўсе ўрокі зараз па-беларуску вядуцца. А яшчэ пасля заняткаў мы анкету запаўнялі, дык я ў графе «нацыянальнасць» напісаў, што я — беларус.
Усе вылупілі вочы, а бацька й кажа:
— Гаварішь, што беларус цеперь? Ну-ну… Значіт, завтра паедзеш в школу не на легкавушке, а на автобусе, как беларусы ездзят. Понял?
Дзядуля дадае:
— А в школу внучёк, я тебе дам не 8 $, а тысячу «зайчіков» — как в Беларусбанке, восемь к одному. Харашо?
Маці кажа:
— Ну вот мы січас будем есць асетрінку с крабамі, каторую дзядзя с Дальнего востока прівёз, а ты будеш есць картошку, как беларусы. Харашо?
Сядзяць усе, вячэраюць. Маці падміргвае іншым з усмешкаю і пытаецца сына:
— Ну што, сыночек, как ано: харашо быць беларусам, а-а? ;)
А той маўчыць, гмурыцца, а потым адказвае:
— Я… я ўсяго толькі гадзіну, як беларус, але ЯК Я ЎЖО ВАС, МАСКАЛЁЎ, НЕНАВІДЖУ!

***

— Сынку, я знайшоў учора ў цябе ў пакоі прэзерватыў.
— Добра, дзядуля.
— Чаму дзядуля?
— Таму што я ўчора яго не знайшоў.

***

МЗС РФ выказаў заклапочанасць у сувязі з выступам А.Р.Лукашэнкі ў Пекіне, у якім прэзідэнт Беларусі заявіў пра жаданне ўсталяваць добрасуседскія адносіны з Кітаем...

***

Калі чалавек на 70% складаецца з вады, тады мой курсач - чалавек!

***

Патрыярх сказаў, што верыць у перамогу прэзідэнта на выбарах. Лепш бы ён у Бога верыў.

***

- Вы з Багдановічам знаёмыя?
- Не.
- З Купалам, з Коласам?
- Таксама не.
...- Ну можна з Быкавым, ці хоць з Караткевічам?
- Не.
- Да пабачэння!
Каля аўдыторыі яго пытаюць:
- Ну, як, прынялі?
- Не, тут толькі па блату. А я, выходзіць, ні з кім не знаёмы…

***

Спартыўны каментатар пасля забегу бярэ інтэрв'ю ў беларускага лыжніка:
- Вось вам перамагчы не ўдалося, але сама гонка вам спадабалася?
- Самагонка спадабалася. Але бегчы пасля яе - жах!

***

Дзяўчына купіла кватэру ў новым доме, пераехала, жыве адна. Званок у дзверы. Адкрывае, на парозе мужчына:
- Добры дзень, я ваш новы сусед.
- Зверху ці знізу?
- Што, вось так адразу?!

Сядзяць выпіваюць два мужыкі.
- А што такое логіка?
- Вось ідуць два мужыкі, адны чысты, другі брудны, хто з іх ідзе ў лазню?
- Брудны!
- Вось гэта і ёсць логіка.
Выпілі яшчэ...
- А што такое дыялектыка?
- Вось ідуць два мужыкі, адны чысты, другі брудны, хто з іх ідзе ў лазню?
- Вядома брудны!
- Не! Чысты, ён таму і чысты, што ходзіць у лазню. Вось гэта і ёсць дыялектыка.
Выпілі яшчэ...
- А што такое філасофія?
- Вось ідуць два мужыкі, адны чысты, другі брудны, хто з іх ідзе ў лазню?
- А хз!
- Вось гэта і ёсць філасофія.

***

Калі вы заблукалі ў Менску - не панікуйце. Падыдзіце да бліжэйшага міліцыянта і папрасіце паказаць вам дарогу. Калі на працягу дзесяці секунд вы не сустрэлі ніводнага міліцыянта, вы не ў Менску.

***

- Мама, а марозіва карысней за сасіскі?
- Сынку, цяпер нават паліць карысней за сасіскі!

***

- Каханая, ты лепшая за ўсіх дзяўчын. Учора я ў гэтым яшчэ раз пераканаўся!

***

Шчаслівы шлюб - гэта калі ёсць магчымасць завесці палюбоўніка, але няма жадання!

***

Амерыканскі і беларускі студэнты размаўляюць.
Амерыканец:
- Калі ты з адзнакай заканчваеш нашу тэхнічную ВНУ, то ў цябе ёсць добрыя шанцы стаць прадстаўніком кампаніі Apple ці Microsoft.
Беларус:
- А ў нас, калі заканчваеш з чырвоным дыпломам нашу тэхнічную ВНУ - ёсць шанцы стаць гандлёвым прадстаўніком кампаніі Кока-Кола.

***

У тралейбусе пажылая жанчына спрабуе саступіць месца вельмі худому маладому чалавеку:
- Прысаджвайся бедненькі, ты што ж худы такі? Хварэеш ці што?
- Не, дзякуй. Студэнт я.
- Ну давай хоць плашч твой патрымаю!
- Гэта не плашч, гэта мой сябар Сяржук!

***

Жаночы форум:
xxx: Я вокны мыю раз у год, я дрэнная гаспадыня.
yyy: А што, іх трэба мыць НЕКАЛЬКІ разоў у год?
zzz: А што, іх ТРЭБА МЫЦЬ РАЗ У ГОД?
vvv: ТРЭБА МЫЦЬ ВОКНЫ???!!!!!!

***

Сіла волі - гэта ўбачыць надпіс «Мае паведамленні (1)», выключыць кампутар і пакласціся спаць.

***

Сядзім на заліку. Выкладчык паступова выдаляе вучняў са шпорамі. Заходзіць дэкан:
- Та-а-а-к. А тут, пэўна, шмат аматараў паспісываць.
Выкладчык:
- Не, аматары ўжо сышлі, засталіся толькі прафесіяналы.

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 29.05.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Г. Когаць, К. Шэлест. **Адказны за выпуск:** Альбіна ТРУС.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў